


# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993 СНЕЖАНЬ 20 Панядзелак

№ 240 (675)

Цана 30 рублёў


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ*

### ПЕРВЫЙ ШАГ В ТЕХНОПАРК

Агентство РИД уже сообщало о создании в Минске Научно-технологического парка. «Первым шагом к его деятельности» назвал генеральный директор технопарка А.П.Гришанович международный семинар «Технологические центры и основание инновационных технологически ориентированных фирм», который проходил с 14 по 15 декабря в столице республики.

В этом рабочем совещании принимали участие заинтересованные белорусские предприниматели, учредители технопарка, представители немецких фирм из Восточной Германии, в частности, технологического центра Варнемюнде. В ходе семинара, по замыслу организаторов, осуществилась передача опыта работы создателей малых фирм, входящих в инфраструктуру технологических центров Германии. Также в задачи мероприятия входило определение потенциально конкурентоспособной отечественной продукции, знакомство немецких партнеров с достижениями наших ученых, которые могли бы стать предметом совместной деятельности.

Весьма существенным обстоятельством, как подчеркнул в беседе с корреспондентом РИДа А.П.Гришанович, является тот факт, что в результате усилий технологического центра Варнемюнде, фирмы «Григер Маллизон» получена поддержка немецких финансовых кругов. Министерство по исследованиям и технологиям Германии, рассмотрев проект создания технопарка, приняло решение о денежном содействии в его реализации.

Анатолий ВИТКОВСКИЙ.

### НАША ТЭЛЕБАЧАННЕ ХОЧА Ў ЕЎРАБАЧАННЕ

Генеральны сакратар Еўрапейскага вяшчальнага саюза, што аб'ядноўвае 65 тэлекампаній 42 краін, Жан-Бернар Монх наведаў Мінск.

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛІНФАРМа ў аддзеле інфармацыі МЗС рэспублікі, на праведзенай у знешнепалітычным ведамстве прэс-канферэнцыі Жан-Бернар Монх выказаў зацікаўленасць саюза ва ўваходжанні Беларусі ў гэту еўрапейскую арганізацыю, бо адна з галоўных яе мэт — дапамога невялікім дзяржавам захаваць сваю культуру. На думку Монха, сучасныя тэхнічныя сродкі робяць тэлепраграмы вялікіх развітых краін даступнымі ўсюды. Але прыярытэт павінен быць аддадзены ўсё ж нацыянальнаму тэлебачанню. Пакуль жа, паводле яго слоў, з-за адсутнасці ў Беларусі наземнай спадарожнікавай станцыі нацыянальнае тэлебачанне рэспублікі самаізалявана, не мае выхаду ў Еўропу.

У сваю чаргу першы намеснік міністра замежных спраў Беларусі Георгій Таразевіч выказаў разуменне важнасці для рэспублікі, якая заявіла аб сваім імкненні да эканамічнай і палітычнай інтэграцыі ў Еўрапейскае супольніцтва, уваходжання ў сістэму Еўрабачання. Ён выказаў таксама пажаданне аб магчымым аказанні дапамогі з боку Еўрапейскага вяшчальнага саюза ў стварэнні і станаўленні нацыянальнай інфармацыйнай сістэмы, падрыхтоўцы высокакваліфікаваных кадраў.

### MINSK STATE LINGVISTIC UNIVERSITY

*У перакладзе гэта Мінскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт. Якраз гэтую новую назву «старой» навучальнай установы афіцыйна замацавалі за былым інстытутам замежных моў.*

*Што змянілася, калі 16 снежня пры «великом стечении народа» адбылася ўрачыстая цырымонія ўваходжання «инязовцев» у клуб вышэйшы па рангу?*

*— А практычна нічога, — адказаў па тэлефоне прарэктар універсітэта Леанід Крацэвіч. — Праўда, рэйтынг нашай навучальнай установы павышаецца. Але ён і ёсць такім без штампаванняў на паперах. Словам, усё лагічна. Магчыма. Толькі галоўнае, думаю, каб было добра для школяроў. Асабліва ў матэрыяльным плане.*

### КУПАЛАЎЦАМ К НОВАМУ ГОДУ

Савет Міністраў рэспублікі прыняў пастанову аб перайменаванні Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ў Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы.

Дзяржкампрацы сумесна з Міністэрствам фінансаў і Міністэрствам культуры даручана разгледзець умовы аплаты працы работнікаў тэатра, маючы на ўвазе павышэнне іх службовых акладаў, разлічаных па тарыфных разрадах і каэфіцыентах, у сярэднім у 1,7 раза.

### У НЯМЕЦКАЙ ПРЭСЫ — ДА БЕЛАРУСІ ІНТАРЭСЫ

*У Дзяржаўным камітэце Беларусі па знешніх эканамічных сувязях намеснік старшыні камітэта Уладзімір Ярмолік прыняў групу нямецкіх журналістаў, у складзе якой былі прадстаўнікі аднаго з буйнейшых інфармацыйных агенцтваў Германіі — DPA.*

*Прадстаўнікоў нямецкай прэсы, у прыватнасці, цікавілі эканамічныя сувязі паміж Беларуссю і Германіяй, знешнегандлёвы абарот дзвюх дзяржаў, дзейнасць на тэрыторыі рэспублікі сумесных прадпрыемстваў, перспектывы супрацоўніцтва.*

Ірына ЛЕЎШЫНА.

### НЕ ТАК СТРАШЕН ЛЕД, КОГДА ЕГО ПОСЫПАЮТ

Минувшая неделя, прошедшая под знаком всеобщей слякоти и, как следствие, скверного настроения у большинства горожан, с ударившими морозцами принесла минчанам куда большую неприятность — гололедицу. Не счесть людей, испробовавших на себе в последние дни силу земного притяжения...

Впрочем, как заверил корреспондента РИДа начальник конторы по механизированной уборке города Анатолий Александрович Лиштван, борьба с коварным льдом ведется в полном объеме: убирается снег, тротуары и въезды во дворы посыпаются песочно-солевой смесью. Транспортом и людьми для этих целей служба обеспечена в достаточном количестве. Единственное, что вносит нервозность в работу, по словам А.А.Лиштвана, это... погода. Из-за ее «шалостей» работники службы не всегда своевременно успевают отреагировать на перепады температуры.

Сергей РАСОЛЬКО.

### *Кто мы? Какие мы? Куда мы идем?*

— такие вопросы прозвучат лейтмотивом выставки «Рисунок-93», устроители которой ставят перед собой задачу «остановиться, осмотреться и посмотреть, что у нас есть» в области рисунка и графики.

Создан оргкомитет выставки под председательством А.М.Кашкуревича. Участникам выставки предоставляется полная свобода в выборе материалов, техники и размеров представляемых ими работ.

Как стало известно корреспонденту РИДа, открытие состоится во Дворце искусств 21 декабря в 17 часов.

И.КОЛОМЕНСКАЯ.

### ЕСЛИ РОЖДЕСТВЕНСКИЙ ОГОНЕК ЗАЖИГАЮТ, «ЗНАЧИТ, ЭТО КОМУ-НИБУДЬ НУЖНО»

Совместно с Союзом театральных деятелей и Белорусским телевидением Белорусский центр международного института театра явился инициатором и организатором огонька «Рождественская звезда», который будет проходить 25 декабря в Доме искусств.

Чествование артистов, теплые поздравления, интересная развлекательная программа — это, пожалуй, то, ради чего стоит в этот день вечером включить телевизор, так как праздник будет транслироваться напрямую.

Марина ЗУБОВИЧ.

**РЭХА ПАДЗЕІ**

## ВЯЛІКАЯ КОЛЬКАСЦЬ ВОЙСКАЎ ЛЯ ДОМА ЎРАДА: ЗАКЛЮЧЭННЕ ПРАКУРАТУРЫ

16 снежня на 13-й сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі распаўсюджаны адказ Генеральнага пракурора рэспублікі Васіля Шаладонава на запыт народнага дэпутата, лідэра парламенцкай апазіцыі Зянона Пазняка аб законнасці выкарыстання падраздзяленняў міліцыі і ўнутраных войскаў для аховы правапарадку 9 лістапада, у першы дзень 13-й сесіі Вярхоўнага Савета.

У адказе Васіля Шаладонава названа не адпавядаючай сапраўднасці заява Зянона Пазняка аб тым, што быццам бы вузкім колам асоб з урада пад кіраўніцтвам Вячаслава Кебіча ў дзень адкрыцця сесіі Вярхоўнага Савета рыхтавалася палітычная правакацыя з мэтай разгону беларускага парламента. Ахова Дома ўрада, згодна з адказам В.Шаладонава, ажыццяўлялася ў адпаведнасці з зацверджаным міністрам унутраных спраў Уладзімірам Ягоравым планам забеспячэння правапарадку і бяспекі на плошчы Незалежнасці ў перыяд правядзення сесіі Вярхоўнага Савета. Рашэнне аб выкарыстанні ўнутраных войскаў, разлік сіл і сродкаў былі распрацаваны камандуючым унутранымі войскамі — намеснікам міністра ўнутраных спраў генерал-маёрам К.Платонавым. На рашэнні ёсць роспіс старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Эдуарда Шыркоўскага. З унутраных войскаў для аховы правапарадку было выдзелена 800 чалавек, з якіх 190 выконвалі задачы ў вайсковым заслоне перад Домам урада, а астатнія знаходзіліся ў рэзерве ў пунктах пастаяннай дыслакацыі. Васілём Шаладонавым канстатуецца, што падраздзяленні міліцыі і ўнутраных войскаў дзейнічалі ў строгай адпаведнасці з шэрагам законаў рэспублікі, а значыць, законна.

У адказе на запыт таксама гаворыцца, што 17 лістапада 1993 года пракуратурай узбуджана крымінальная справа для вызначэння аўтараў ананімнай лістоўкі, якая распаўсюджвалася перад адкрыццём 13-й сесіі і ў якой, у прыватнасці, гаварылася: «Толькі кулі вызваляць нас ад здрады ўрада Кебіча, не станем перад маскалямі на калені».

Віктар ДЗЯТЛІКОВІЧ, БелаПАН.

**КАЛЯНДАР**

*СОНЦА — 8.25/15.49.*

*Даўжыня дня — 7.24.*

*МЕСЯЦ — першая квадра 21 снежня,*

*ўсход 10.15/захад 22.24.*

**ІМЯНІНЫ**

*Сёння:*

*Праваслаўныя — Амбросія, Антона, Ніла.*

*Каталіцкія — Багуліка, Дамініка, Яўгена.*

*Заўтра:*

*Праваслаўныя — Анфісы, Кірылы, Патапа.*

*Каталіцкія — Анастаза, Пятра.*

**ДЕЛОВОЙ МИНСК**

### ВСЕ НАЧАЛОСЬ С НЕБОЛЬШОГО РЕМОНТА...

Андрей ПОТРЕБИН, «ДВ».

*Фирма «Ри Ми Сервис-Центр» была официально представлена 16 декабря в комплексе «Минскэкспо» в качестве генерального импортера акционерного предприятия «БМВ». С чем и поздравили деловых людей президент Торгово-промышленной палаты Беларуси В.К.Лесун, а также представители руководства «БМВ» господа Хайлер и Хайтманн.*

*Перспективы этого бизнеса неплохие: «БМВ» сегодня одна из самых распространенных «иномарок» (только подержанных машин по белорусским дорогам бегает около двух с половиной тысяч). «Ри Ми Сервис-Центр» начал с технического обслуживания и ремонта, а теперь занялся и продажей автомобилей. «Обеспечиваем сервис на таком же уровне, как и на любом из предприятий «БМВ» в Европе, а новые машины продаем дешевле, чем в Германии. Причем предлагается именно восточноевропейский вариант, технически приспособленный к местным условиям», — рассказал генеральный директор «Ри Ми Сервис-Центра» А.Л.Гостевский.*

*Небольшая мастерская, где возможен ремонт любой сложности, оснащена фирменным оборудованием, а механики прошли специальное обучение. Летом 1994 года в промышленной зоне в Шабанах откроется более крупная станция техобслуживания, будет также развиваться сеть сервиса в областных центрах.*

*Как известно, «БМВ» — это еще и мотоциклы. Двухколесными машинами этой марки управляют бравые мотоциклисты из кортежа, который сопровождает первых лиц Республики Беларусь во время встреч на высшем уровне.*

*Генеральный импортер готовится взять на себя заботу об исправности всей техники «БМВ», которая попадает в Беларусь.*

### КУРС ОБМЕНА наличной валюты в обменных пунктах коммерческих банков г.Минска и официальный курс, установленный Национальным банком на 20 декабря 1993 года

| Наименование банка | Доллар США: Покупка, Наличный расчет | Доллар США: Покупка, Чековая книжка | Доллар США: Продажа | Немецкая марка: Покупка, Наличный расчет | Немецкая марка: Покупка, Чековая книжка | Немецкая марка: Продажа | Российский рубль: Покупка | Российский рубль: Продажа |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| АРКБ "Комплекс" | 5300 | 5830 6900 | 5500 | 3090 | 3400 3900 | 3205 | 3.80 | 4.00 |
| АКБ "Белвнешэкономбанк" | 5150 | 5665 | 5500 | 3001 | 3301 | 3205 | 3.70 | 4.07 |
| АКБ "Белорусский народный банк" | 5250 | * * | 5600 | 3040 | --- | 3290 | 3.80 | --- |
| АКБ "Белпромстройбанк" | 5300 | 6174 | 5600 | 3050 | * * | 3150 | 3.70 | 4.10 |
| АКБ "Беларусь" | --- | 6568 | --- | --- | 3827 | --- | --- | 4.80 |
| ГКБ " Сбербанк" | 5305 | 5405 | 5410 | 3095 | 3195 | 3200 | 3.80 | 4.15 |
| АКБ "Приорбанк" | 5300 | 5830 | 5500 | 3095 | 3400 | 3220 | 3.50 | --- |
| КБ "ПРОФБАНК" | --- | 6500 | --- | --- | 3800 | --- | 3.85 | 4.35 |
| КБ "Северо-Запад" | --- | 6272 6468 | --- | --- | 3626 3724 | --- | --- | --- |
| АКБ "Белбизнесбанк" центр. отд. | 5300 | * * | 5700 | 3140 | * * | 3380 | 3.95 | 4.40 |
| Национальный банк РБ | 7480.00 | | | 4358.97 | | | 4.51 | |

** -- не принимают

Информация (на 9 час. 45 мин.) подготовлена "Агентством Гревцова".

### БЕЛАРУСЬ ПАВІННА ВЫЙСЦІ З СНД

Управа Беларускага народнага фронту «Адраджэньне» выступіла з паведамленнем, у якім ацэньвае вынікі выбараў у Расіі, як перамогу экстрэмістаў — фашысцкіх і камуністычных сіл. Выявілася, гаворыцца ў дакуменце, што вялікадзяржаўніцкія, імперскія погляды падзяляе большасць насельніцтва Расіі незалежна ад палітычнай арыентацыі. Ніводная партыя, якая ўдзельнічала ў выбарах, не прапанавала іншых поглядаў на месца Расіі ў свеце. Гэта паставіла пад сумненне магчымасць усталявання дэмакратыі ў суседняй дзяржаве.

Палітычнае процістаянне ў Маскве абвастрылася. Падзеі ў Расіі ў чарговы раз паказалі небяспеку ад суседства з ёю. Быць у саюзах ці садружнасцях з Расіяй — значыць быць заложнікамі непрадказальнай і агрэсіўнай расійскай палітыкі, нестабільнай сітуацыі ў гэтай краіне.

БНФ лічыць, што Беларусь павінна неадкладна выйсці з СНД. Беларуска-расійская мяжа мусіць стаць паўнацэннай дзяржаўнай мяжою.

Не можа быць гаворкі пра ўваходжанне ў сістэму «калектыўнай бяспекі» з краінай, дзе вядучая парламенцкая партыя збіраецца сілай аднаўляць межы Расійскай імперыі 1913 года; наадварот, Беларусі варта неадкладна дамагацца гарантый сваёй бяспекі з боку Захаду.

Не можа быць размовы пра «адзіную рублёвую зону» з краінай, якая пастаянна стаіць на парозе грамадзянскай вайны. Саюз з Расіяй, за які агітуе ўрад, зацягне нас у тупік крывавых расійскіх міжусобіц, прывядзе да эканамічнага і дзяржаўнага развалу. Далейшая арыентацыя на Расію нясе пагібель для Беларусі.

**ПАРТАКТЫЎ**

### «НАФТАВАЯ» КАНФЕРЭНЦЫЯ

Таццяна ЛАЗОЎСКАЯ, «ДВ».

29-30 снежня ў Кіеве мае адбыцца канферэнцыя краін Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна, у якой прымуць удзел Эстонія, Латвія, Літва, Беларусь і Украіна. На ёй будуць абмеркаваны пытанні па стварэнню Балтыйска-Чарнаморскага нафтавага калектара.

Са слоў намесніка Старшыні Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі Станіслава Гусака, у Літве, на Украіне створаны камітэты ў падтрымку рэалізацыі ідэй стварэння калектара. І толькі дзяржаўныя структуры Беларусі праяўляюць у гэтым пытанні пасіўнасць.

Нашу краіну на канферэнцыі будуць прадстаўляць Беларускі народны фронт «Адраджэнне», Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі, Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада.

**ПРЕМЬЕРЫ**

Премьеру комической оперы Г.Доницетти «Viva La Mamma!, или Пикантные кошмары театральной жизни» показал на своей сцене Государственный театр музыкальной комедии Республики Беларусь.

«Опера в оперетте?» — скажете вы. У труппы есть тому объяснение. Сцена театра и предназначена для постановки комических музыкальных произведений, а для артистов это возможность проявить себя в новом, более сложном жанре.

Поставил спектакль режиссер из Санкт-Петербурга Юрий Александров, уже известный любителям оперы по нескольким работам в ГАБТе Беларуси.

«Viva La Mamma!» расскажет зрителям о том, чем живет театр перед премьерой, обо всех чрезвычайных и в чем-то традиционных перипетиях, которые переживают постановщики перед тем, как действо состоится.



НА СНИМКАХ: сцена из спектакля; режиссер Юрий Александров (в центре) в заключительной сцене спектакля.

Фото Аркадия НИКОЛАЕВА, БЕЛИНФОРМ.

**ЭТО ФАКТ**

### ПРЕДЪЯВИТЕ ПРАВА!

*Отсутствие закона об авторских правах дает возможность проникать в Беларусь «нелегальным» фильмам. Как сообщили корреспонденту агентства РИД в Государственном регистре киновидеофильмов и киновидеопрограмм, проникновение фильмов без действительного права на прокат происходит большей частью через российские прокатные фирмы. Совместные усилия Беларуси и России в отслеживании и выявлении таких фирм никак не скоординированы. Гораздо большую заинтересованность в сотрудничестве с Государственным регистром проявляют аналогичные организации Англии и Америки.*

*Так, совсем недавно акционерное общество «Интеркин», объединяющее столичные кинотеатры «Октябрь», «Москва», «Партизан», «Салют» и обладающее независимым правом выбора и проката фильмов, обратилось в регистр с просьбой проверить действительность права на прокат фильма «Некуда бежать» с Жан-Клодом Ван Даммом в главной роли студии «Каламбия Пикчерз».*

*Фильм будет предоставлен «Интеркино» нашим бывшим соотечественником, а ныне владельцем кинотеатра в Нью-Йорке. Государственный регистр обратился в аналогичную организацию Америки с просьбой уведомить их, имеет ли наш земляк действительные права на прокат этого фильма в Беларуси.*

*Теперь подождем ответа из США.*

Александр КАЗАК.

**НА ЗАМЕТКУ**

Сергей РАЧИЛА, пресс-центр УВД г.Минска.

### КТО-ТО РИСУЕТ, А КТО-ТО ТЕРЯЕТ...

Финиш уходящего года отмечен заметным появлением в Минске поддельных российских «пятидесятитысячников». Только в первой половине декабря выявлено 8 таких случаев. Анализ показывает: наиболее вероятная возможность попасться в лапы фальшивомонетчиков — при расчете вечером или ночью с таксистами, при купле-продаже в «комках» и на рынках. По мнению сотрудников столичного отдела по борьбе с экономической преступностью, удачный сбыт фальшивомонетчиков обусловлен прежде всего примитивнейшей невнимательностью покупателей этих «фантиков». В некоторых случаях сбытом российских подделок занимался кое-кто из кавказско-среднеазиатской братии. Поэтому названный отдел еще раз обращается к минчанам: будьте внимательны. Для многих цена рассеянности при расчете в полутьме или с первым попавшимся может стоить не только материального ущерба в соотношении «один к четырем». Существует еще и Уголовный кодекс Республики Беларусь, соответствующую статью которого никто пока не отменял.

А для несведущих еще раз напоминаем об основных отличительных признаках российской подделки в 50 тысяч.

Не забудьте использовать старый и верный метод осмотра купюры на просвет. Полное отсутствие водяных знаков (или неумелая их имитация) может сразу разрешить ваши сомнения и интерес к купюре. Неплохо было бы внимательно всмотреться во все изображения на обеих сторонах. Главное в этом случае — четкость всех реквизитов и особенно текстов.

Суперсовременная печатная технология позволила отметить новые российские дензнаки рельефностью в штрихах рисунков обеих сторон. Кроме того, следует обратить особое внимание на вдавленность «бортика» у серий и номеров. С появлением в нашей жизни заокеанского «зеленого» представителя многие имели возможность убедиться в рельефности его реквизитов. Протирка пальцами на определение степени выпуклости — аналогичная операция поможет и в распознании лжекупюры России.

И, наконец, напрягите глаза, чтобы увидеть защитные волокна в хрустящей бумаге.

В среду, 22 ДЕКАБРЯ, в 18.00 в 101-й аудитории географического корпуса Белгосуниверситета состоится дискуссия по вопросам, которые рассматриваются на проходящей сессии Верховного Совета.

*Приглашены народные депутаты Беларуси.*

Приглашаются все желающие.

**Вход свободный.**

Политклуб Объединенной демократической партии Беларуси (ОДПБ).

